Год II. Пятніца, 7 Студня 1921 г. № 1.

# НАША ДУМКА

Палітычная, экономічная і літэратурная тыднева газэта

ПАДПІСКА: на 3 месяцы 60 марак або 5 ф. мукі. | Цана асоб. нумэру 5 марак. | Адрэс: Вільня, Вострабрамская 5 (Пасаж).



## Раней і цяпер.

(Да гісторыі Сойму ў Вільні).

Цяпер многа гавораць аб Сойме ў Вільні.

Цікава прасачыць гісторыю гэтага пытаньня.

Ідэя Сойму ў Вільні ня новая,—куды старэйшая, ніж неспадзяваная Сярэдняя Літва, гэтую ідэю стараючаяся зрэалізаваць ня так, як таго хацелі раней розныя грамадзянскія нацыянальныя кругі нашага інтэрнацыянальнага краю.

Яшчэ задоўга да апошняй расейскай рэвалюцыі, даўшай моцны таўчок сэпаратыўным страмленьням паднявольных Расеі нацыянальнасьцяў, ідэя Сойму ў Вільні разглядалася ў розных палітычных арганізацыях (партыях, кружках, інтымных колках і інш.) Літвы і Беларусі і па за іх межамі, дзе пражывалі выхадцы з нашага краю.

Сойм у Вільні амаль усімі мысьліўся. як *Сойм прадстаўнікоў з усіх зямель былога Вялікага Князьства Літоўскага.* Такі Сойм асабліва падтрымліваўся некаторымі польскімі кругамі, як буржуазнымі (абшарніцкімі), так і соцыялістычнымі і дэмакратычнымі. Усе гэтыя польскія краевыя элемэнты лічылі ў той час безварунковым, каб уваскрэсшае Вялікае Князьства Літоўскае з сваім Соймам у Вільні знаходзілася з Польшчай у цеснай сувязі, будзь то вунія, ці фэдэрацыя. Сярод польскіх грамадзянскіх кругоў ня было і цяпер няма ніводнай партыі ці навет кружка, каторыя-б стаялі на грунце незалежнасьці тэрыторый былога В. К. Літоўскага ад Польшчы.

Так думала амаль ня ўсё сьвядомае польскае грамадзянства да апошняга часу.

Прыходзіцца ўспомніць і пра вядомую адозву Я. Пілсудзкага да жыхароў б. В. К. Літоўскага, астаўшуюся голасам крычачага ў пустыні, прыгожымі словамі на паперы: Генаральным Камісарыятам Усходніх Зямель на дзеле, з яго шовіністычна-эндэцкай палітыкай.

Углядаючыся ў сучасную палітычную сітуацыю сярод палякоў, мы змушаны канстатаваць і робім гэта з вялікай прыкрасьцю, што сярод іх куды мацней кругі, настроеныя анэксыяністычна, ваюючыя за далучэньне да Польшчы ўсіх зямель былога В. К. Літоўскага аж да граніц 1772 году. Ніякага Сойму ў Вільні ім ня трэба. У самы апошні мамэнт концэпція фэдэрацыі або вуніі як бы здае і выраджаецца у беспасрэднае далучэньне да Польшчы толькі Горадзеншчыны, Віленшчыны і часьці Меншчыны, разумеецца, бяз Сойму ў Вільні.

Пасьля ўсяго сказанага аб польскім грамадзянстве нашага краю і яго адносінах да ідэі Сойму ў Вільні, ня можна мінуць і сучаснага мамэнту, калі ідэя Сойму ў Вільні усе-ж мае быць зрэалізавана. Як мы ведаем, *Сойм гэты мае складацца з прадстаўнікоў ад выкраенай невялічкай тэрыторыі*, чым ужо адным ідэя Сойму ў Вільні, як яе разумелі досьць значныя польскія кругі да апошняга часу, закапываецца далёка ў зямлю

— Я цябе радзіў, я цябе й забіў і асінавы кол убіў...—так могуць сказаць некаторыя „апосталы" ідэі Віленскага Сойму, каторых ня трэба далека шукаць...

Літоўскія, беларускія і жыдоўскія кругі менш, чым польскія, цікавіліся справай В. К. Літоўскага і Соймам у Вільні. Усе-ж сярод беларусаў, ліцьвіноў і жыдоў нашага краю былі значныя групы, падтрымліваўшыя азначаныя тэндэнціі.

*У апошнія гады, пад уплывам зьмены польскіх настрояў у бок вырашэньня пытаньня аб Віленшчыне і Горадзеншчыне, беларусы, ліцьвіны і жыды пакінулі падтрымліваць ідэю адбудовы В. К. Літоўскага і цьверда сталі на грунце адбудовы незалежных дзяржаўных арганізмаў Літвы і Беларусі паасобку.* Пры такім становішчы ліцьвіноў і беларусаў *Віленскі Сойм,* як прадстаўніцтва з абшараў б. В. К. Літоўскага, за адказам усіх народаў, апрача горсткі палякоў, ад ідэі былай гістарычнай Літвы, *утраціў усякі грунт. Цяперашні Сойм,* што склікаецца ў Вільні Тымчасовай Камісіяй, — *няўдалы урод, грубая фальсіфікацыя таго, аб чым у свой час задумываліся лепшыя людзі нашага краю.* Ня будзе дзівам, калі гэты Віленскі Сойм, склад каторага будзе анэксыяністычна-польска-эндэцкі, абвесьціўшы далучэньне да Польшчы, памрэ навекі.

*Вілянчук.*

## Канец году.

Беларусь на рыскіх бальшавіцка-польскіх перагаворах прызнана незалежнай «у прынцыпе», што можна разумець, як прызнаньне з абодвух бакоў права Беларусі на незалежнасьць. Запраўды-ж па Рыскаму дагавору бальшавікі аддалі Польшчы вельмі абшырную часьціну Беларусі, хоць яшчэ толькі «предварительно».

Раней,—па дагаворах з Лацьвіяй і Літвой, бальшавікі аддалі часткі Беларусі латышам і ліцьвінам. З астаўшайся пад Савецкай Расеяй часьці Беларусі, і то ня ўсей, бальшавікі ўтварылі «Савецкую Беларускую Рэспубліку», фэдэратыўную з Расеяй. Апрача таго, часткі Беларусі уваходзяць у склад «Украінскай Савецкай Рэспублікі».

За граніцай знаходзіцца цяпер адзін Беларускі Урад, на чале якога стаіць Вацлаў Ластоўскі, вядомы беларускі дзеяч. Каля яго згуртаваліся усе небальшавіцкія і не рэакцыонныя нацыянальныя беларускія сілы. Праца ўраду Ластоўскага, як аб гэтым можна меркаваць па кароткіх вестках, ідзе добра і на карысьць незалежнасьці і непадзельнасьці нашай бацькаўшчыны, і мы спадзяёмся, што ў новым 1921 годзе яна увянчаецца перамогай беларускага народу і яго абаронцы—ураду Ластоўскага—над ўсімі ворагамі.

Так званая «Найвышэйшая Беларуская Рада», выбраная ў Менску год таму назад элемэнтамі, варожымі Ластоўскаму і яго групе, фактычна ня істнуе, «разьехалася» у розныя бакі. Сябра гэтай групы П. Аляксюк разам з вядомым партызанам, генаралам (?) Булак-Балаховічам, паднялі былі «штандар незалежнай Беларусі» (?) але пад націскам бальшавікоў «отступили в полном порядке».

12 лістапада 1920 году урад Ластоўскага заключыў умову з Літоўскім Урадам аб узаемным прызнаньні незалежнасьці Літвы і Беларусі і супольнай абароне ад ворагоў.

Украіна, Лацьвія, Эстонія, Фінляндыя таксама прызналі назалежнасьць Беларусі.

У Парыжу, Лёндане, Бэрліне, Празе-Чэскай, Белградзе, Капэнгазе, Рызе, Рэўлю, Гэльсінфорсе і іншых эўропэйскіх цэнтрах урад Ластоўскага мае прадстаўніцтва.

Дэлегацыя ад ураду В. Ластоўскага ў складзе трох асоб: В. Ластоўскага, Цьвікевіча і Ладнова, знаходзіцца цяпер у Жэневе і ў контакце з літоўскай дэлегацыяй бароніць справы Беларусі і Літвы ад іх супольных ворагаў перад засядаючай там Лігай Народаў.

М. К.

## Літэратурна-выдавецкая праца у 1920 годзе.

Ня гледзячы на тое, што навокал нас праз увесь 1920 год ішла вайна, што хвалі чужацкіх войск перакатываліся з краю да краю праз ўсю нашу зямлю, што кожная зьмена ўлады разьбівала толькі-што наладжанае грамадзкае і культурнае жыцьцё,—беларуская культурная праца аказалася гэткай моцнай, абапертай на такіх крэпкіх падвалінах, што ня спынялася ні на адзін мамэнт. А гэта выяўлялася асабліва ярка ў літэратурна-выдавецкай працы.

Пад гук стрэлаў беларускія пісьменьнікі, беларускія літэратары, поэты, журналісты робілі сваё дзела. тварыліся высокае вартасьці літэратурныя цэннасьці. Выходзіла гэтульки газэт і часопісей у беларускай мове, як, бадай, ніколі раней ня бывала.

Яно так у нас злажылася. што часопісі беларускія ня толькі даюць асьвятленьне сучаснага жыцьця і інфармацыі, але выдзяляюць шмат месца і для літэратуры. Пры малых матэрыяльных засобах нашых выдавецтваў, толькі найбольш выдатныя пісьменьнікі прыждалі выданьня іх твораў у асобных кніжках,—а большасьць сіл, асабліва маладых, толькі-толькі пачынаючых пісаць, знаходзяць прыпынак для сваіх прац у часопісях. Вось чаму, разглядаючы наш літэратурны прыбытак за мінулы год, мы павінны асаблівую ўвагу зварочаць на часопісі. І мы пяройдзем да іх, разгледзіўшы сьпярша важнейшыя выйшаўшыя ў 1920 годзе кніжкі.

Тут на першым пляне стаіць кніжка Максіма Гарэцкага „Дзьве душы", надрукаваная на рубяжы 1919 і 1920 году. Кніжка гэта становіць важны этап у разьвіцьці беларускага краснага пісьменства: гэта—першая беларуская арыгінальная повесьць, беларуская ня толькі па мове, але і па зьместу: яна дае шырокі і многабочны абраз нашага жыцьця,—а жыцьцё гэтае настолькі багатае, настолькі цікаўнае, што першы крок у кірунку повесьці, зроблены Гарэцкім, напэўна пабудзіць і другіх нашых пісьменьнікаў працаваць на тым-жа грунце.

Спаміж драматычных твораў, якія выйшлі ў асобных кніжках, трэба адзначыць перш за ўсё „Цені", драму ў 3 актах Ф. Аляхновіча. Ня першы гэта твор нашага бясспорна здольнага драматычнага аўтара, і з боку тэхнікі і формы мае сваю цану. Але зьмест—нейкі хворы, моральна ўгнятаючы. Гэта—ня жыцьцё, а расклад, гніцьцё, сьмерць. Людзі-няўдачнікі, загнаныя жыцьцём, лішнія на гэтым сьвеце гінуць, паміраюць, як тыя лісьці, што ў восені вецер з галін зрывае. Мо' ў душы іх ёсьць сьветлыя іскры, сьветлыя парывы: дарма, жыцьцё іх загубіць, бо яны да жыцьця не дапасованы... І, ня гледзячы на сцэнічную вартасьць, апошні твор Аляхновіча нічога не дае для душы, а толькі б'еця па нэрвах і пакідае па сабе цяжкое, панурае ўражаньне.

Затое яснымі, радаснымі тонамі звучаць апошнія, напісаныя як быццам на разьвітаньне перад сьмерцю—на памятку дзеткам беларускім, „Жывыя Казкі" Алеся Гаруна. Гэта—тры п'ескі для дзіцячага тэатру („Хлопчык у лесе", „Шчаслівы чырвонец", „Дзіўны лапаць"). Шчырай паэзіяй веець ад гэтых дзіцячых п'есак. І заслуга Алеся Гаруна—ў тым, што ён у мастацкай форме прамаўляе да дзяцей. Мо' аўдыторыя і чытачы не дадуць яму славы, але мо' не ў адну дзіцячую душу зароняць творы яго тую іскрачку, якая, узросшы, разгарыцца ў вялізарны агонь любові да хараства, да мастацтва і поэзіі. Ня шкодзіла б і іншым нашым поэтам даць нешта для нашых дзяцей—нашай будучыны!

З вершаў у асобных выданьнях ня прыбыло нічога, калі ня лічыць вершаванага апавяданьня А. Сумнага „Мае Коляды". З мастацкага боку гэта маленькая кніжачка ня мае цаны. Затое зварочае на сябе ўвагу кніжка „Беларусь у песьнях" Я. Фарботкі (Менск 1920), каторая маніцца даць агляд беларускае адраджэнцкае літэратуры за час ад 1809 да 1919 г. г. Мэта аўтара—шырокая, але выпаўнена ў вельмі вузкіх рамках: хаця ня віна яго, што грамадзкі і палітычны элемент у беларускай новай поэзіі занімае першае месца, ўсё-ж нельга абмежавацца толькі адным бокам нашае поэзіі, нельга часьці выдаваць за ўсё.—а гэта як-раз і зрабіў грам. Фарботка. Як „літэратурна-гістарычны нарыс", праца гэта не дае глыбокага аналізу творчасьці нашых пісьменьнікаў, але становіць хутчэй спробу даць літэратурную хрыстамацію, даць выпісы поэтычных твораў, падабраных так, каб яны самі гаварылі за беларускую ідэю. І „Беларусь у песьн

